## *1*

## *Голас травы*

Ствараецца шчасця эскіз.
Нашэпты,
разлогі,
напевы…
І грэбень хавае уніз
заходу няўгневаны певень.

Свіцяцца ў задуме палі,
і сонца зайшло на выгодзе,
каб думы далёка плылі,
дзе кожнай радзіма дагодзіць.

Мацуецца зрок ля дарог.
Без мэты твой шлях невідушчы.
На сцежках былых перамог
выраслі нашыя душы.

З табою надзейны хаўрус
крыніц,
вершалін,
перагудаў.
І шэпча трава: «Беларус,
цябе анідзе не забуду».

І хочаш дазнацца сабе
пра свет,
далягляд
і былінку.
Нішто яе з ног не саб'е,
і грае яна безупынку.

І голас травы, паміж тым,
хвалюе,
бярэ,
непакоіць...
І сцелецца голас, як дым,
па сэрцы,
на ветры,
на полі.

## *Хуткасць*

Рассцілала раніца ручнік
Спаласканай дабяла дарогі.
Падаваўся звер лясны ручным,
І хітаў ён з галавою рогі.

Неслася, як чутка, міма хат
Яблыня сярэбраная ў квеце,
Бы хацела хусткай памахаць:
Ці яшчэ сустрэнемся на свеце?

Мне здалося: я калісьці жыў...
Мераў крокам думы і прасцягі
І уласных нескароных жыл
Сёння стаўся ўчэпістым працягам.

Навылёт зялёнае зямлі
Мне знаёмы подыхі і поры,
Дзе чмялі натруджана гулі
І кадзілам смерці пыхкаў порах.

Мне вядомы спевы і агні,
Іх ніяк не разальеш вадою.

І вядомы будучага дні,
Толькі міг апошні невядомы.

І ляціць радзіма без канца.
І фіранка часу варухнецца,
Каб угледзець твар свайго ганца,
Не спытаўшы — як ганец завецца.

## ***Дыпціх***

*1*

Ні крывінкі. Жаночы твар.
Роспач.
Плача дзіця на ганку.
Недаспелага жыта згар.
Распярэзана пыха.
Танкі.
Зграя гоніцца на усход.
Хай жа ёй пазгасаюць зоры!
Адступае разбіты ўзвод
Не сабе — чужакам на гора.

*2*

Ля вывернутых платоў
Шастае пацяруха.
Нястача.
Бяда.
Разруха.
Рвецца восені палатно.

Хай грукоча палын нямы.
На руінах пасуцца козы.
Адукацыя, хлопча, козыр,
Без якога і мы — не мы!

Забыта гульня ў абоймы.
Шчэ край невядомы дакукі.
«Гада забі!» — на абоях
Піша
Хлапчук аднарукі.

## ***Абеліск***

Аб’явы.
Трава.
Сельсавет.
Экзотаў не вельмі багата.
Ды б’ецца на цэлы сусвет
Гранітнае сэрца салдата.

## ***Здымак сорак пятага года***

Шчаслівы стаіць салдат.
Усмешка.
Шынель.
Пілотка.
Калі паглядзець назад:
Дык бэз звар’яцеў за плотам.

Ён побач гуляе, бэз,
Ва ўласным, смяротным дыме.
«І той выглядаў так спрэс.
Яшчэ жывы. На радзіме».

Квету паветра піць.
Салдату чакаць загаду.
Будуць гарматы біць
Раз'юшана і кананадна.

...Здымак пажоўк, аблез.
Яго у архіў закінуць.

Той жа салдат і бэз
У тым жа баі загінуць.

### *На Беларускай чыгунцы*

Набліжаецца промневы гуд,
У тупік аддаляецца ціша.
І па шпалах паветраных вышай
Узнімаецца сонца на груд.

Недзе грукае сэрцам дэпо.
Сняць дарогу вагоны ў закутку.
Бусел шле прывітанне з дубоў:
Ён радзіме іграе пабудку.

У блішчастым метале пуці.
Астываюць на час цеплавозы,
Каб спачатку памалу пайсці,
А затым паляцець не ў знямозе.

Прыстанцыйнага вераду смак:
Захліснула казённы будынак.
Ці заўсёды на свеце вось так —
Найсалодка ад ніцага дыму?

На раптоўнае вока глядзіць
Рух,
 пагон,
  ababiтак эмалі...
Спадзяваннем па свеце ляціць
І сляза, і усмех магістралі.

## ***Радкі пра Гродна***

На Ажэшкавай вуліцы
Пліты весела бліскаюць.
Толькі вейкі затуляцца —
І далёкае — блізкае.

І на горад абрынецца
Рэха веку і подзвігу.
Ён стаіць над абрывамі:
Да Айчыны — уводзіны.

Езуіцкімі вешкамі
(Ды і горшыя помняцца)
Ды яшчэ галавешкамі
Ён азначан напоўніцу.

Час капытамі цокае...
І з клінкамі з-за гаю
Вырываюцца сокалы
Легендарнага Гая.

Уначы каля кляштара
Пры санацыі Польшчы
То гісторыя кашляе,
Як прамоклы падпольшчык.

Дзіка цешыцца зарыва,
Стала Нёману вузка.
Сталь па гадах ударыла
З двух франтоў Беларускіх.

Да заставы прытуліцца
Край крывёю паліты.
...На Ажэшкавай вуліцы
Векапомныя пліты.

Не над сквапнымі крамамі
І шляхецкаю пыхай,
Па-над кронамі, кранамі,
Вецер, горадам дыхай!

## *Белавежская вёска*

Калі абцасам егер грукае,
Тады не рухамі, не гукамі
Пад сподам пушчы карані
Не парушаюць цішыні.

Па дольнай вёсцы Ціхаволі
Са стога выскубці крыху
Прапхнецца зубр
па ўласнай волі
У задубелым кажуху.

А ранкам сані свіснуць молада.
Вядзе старога кавяла.
Мароз аб кузню жахне молатам —
З пахмелля будзіць каваля.

І між ялінамі і хатамі,
Дзе люд не здольны дробна жыць,
Усходзіць сонца не багатае,
Каб вёску зноў азалаціць.

## *Цётка ў Закапанэ*

Алаіза Пашкевіч некаторы час жыла ў польскім горадзе Закапанэ.

Гуральскі воз павольна ўгору лез.
Насустрач жа Дунаец мчаўся з Татраў.
Жанчына спала.
І раптоўны бэз
Гуляў у цвеце, заглядаў у спраты.

Прастору аглядаў здзіўлена свет.
Бялелі рушнікамі ў небе горы.
Жанчына спала.
Сніла запавет.
Расплёскана гудзела думак мора.

Памытыя уборы дабяла:
То недзе ў Астрыне ішлі сялянкі...
І кожная сама сабой была
Сястрою роднай для Пашкевічанкі.

## *Майстэрня*

А каменю хочацца жыць,
Узняць і далоні, і вейкі.
Пад долатам камень дрыжыць —
Вястун невядомага веку.

На зброі надзейны прыклад
Аперлася дума салдата...
Граніт назаўсёды пракляў
Смяртэльныя раны і даты.

У глыбе акрэслены твар
Узнікне, як воблак, паволі.
Ды гляне у неба звяздар —
Ступіў з камяніцы на волю.

І з мармуру сыдзе Яна:
Праменні, гучней заіграйце!
Асляпіць грудзей белізна
Аматараў тайны і грацый.

Жывое балюча гарыць.
Жывое у бездані кане?
Застыў неўміруча ўгары,
Як мёртвае полымя, камень.

## *Рамантык*

Ніяк не скажаш: ветрагон,
Не сквапны на заробак,
Заходзіць весела ў вагон
Адлегласць браць на пробу.

Ён руху — самы пабрацім,
Прыгодзе — пастаялец.
Не ў навіну туды брысці,
Дзе значыў карту палец.

Яснеюць вочы — напавал!
Калі вітацца мецца,
Руку пацісне, як каваль,
Каб цеплілася з месяц.

На полі,
У небе
І за ім
Вяршыцца смела датам,
Каб Млечны Шлях, як стомы дым,
Прыстаў, бы вінаваты.

Засыпле юны жыццяпіс
Засекі весялосцю.
Краіны паўстае абрыс,
Абраны маладосцю.

## ***Дзед***

І пад здаўна вільготным громам
Ён, бы маланка, так усох.
Ды па шпачынай чорнай гроне
Учуе, як бушуе сок.

Яму дакладна ўсё ж вядома
На схіле адыходных лет,
Што сад зялёны каля дома
Зусім раптоўна пусціць цвет.

Успомніць,
як світала зорка.
І сам да працы век жадзён,
Зару выводзіў ён на золку
Са стайні ўжо калгасных дзён.

Рукой рашучаю азначыў
Жанчыну,
Зброю,
Каласы.
Такое ўжо бывае значным
Для ўсёй мужчынскай паласы.

Планіда ў ім жыла такая,
Дзе спраў
і думак быў нязбыт.
І верыў:
Лепшы дзень чакае,
І ведаў:
Горшы дзень — нябыт.

## ***Постаць мужнага чалавека***

У памяці, як бліц,
Успыхне не для згубы
Калчан згрубелы дуба
Для схову бліскавіц.

## *Сон пра жывую рэчку*

Плыла рачулка ў лета
І ў дбайных берагах,
Як зерне, зоры свету
Надзейна берагла.

Жылося бесклапотна
Расліне і крылу.
(Прамейшай за стралу
Рачулка стане потым...)

Плыла між запаветаў
Ля жэрдак,
Сноў,
Машын
І дыхала паветрам,
Купала ўсмак жанчын.

Ад радасці пішчала
Казюрка і лаза.
Раса ў траве блішчала,
Як божая сляза.

І лопала пад ботам
У лотаці вада.
(Нямою, як бяда,
Рачулка стане потым...)

Плыла у добрай згодзе
З жыццём і буданом,
А ёй сказалі: Годзе!
Не будзеш на выгодзе
Свяціць вясёлым дном.

Паводкаю —
буяніць,
У ледастаў —
драмаць,
У свята ўсплёск баяна
Над тонямі трымаць.

Хоць сон —
а небяспечна.
Плыві, рачулка, вечна!

## ***Сланечнік ля званіцы***

Дзе воблака дыміць,
Высока неба кружыць.
Званіца помніць кужаль
І бунту дынаміт.

На цень яе акна
Стрыжам не падаць ніцма,
Маўчаць званы званіцы,
Як медны акіян.

Знайшла іх голас смерць.
Над травамі, гадамі
Сланечнікі гайдаюць
Сваю жывую медзь.

Ля дарог не стаптаных брыдою
Адгукаецца даўняя споведзь:
«Напішу я такую аповесць,
Хай сівой абрасту барадою»*.

А гадоў патаемныя стрэлкі
На жыцця цыферблаце не дрэмлюць.
Перахопваць бліскучкі дарэмна
З перакуленай неба талеркі.

Рукі дзеяння мужнага варты,
Покуль думка нашчэнт не самлела.
Вырастае тапол сумлення
І становіцца часу на варту.

Нечуванае прагнасці подых
Будзіць зноў і жаданні, і жылы.
Захапіла,
Ўзняло,
Закружыла.
Падрахунак? Занятак на потым!

З легендарным запасам радовішч
Робіць слова надзейную повязь.
«Напішу я такую аповесць,
Хай сівой абрасту барадою».

На калёсах,
На крылах
І пешкі
Вывяраецца голас і справа.
Я трываю: бо я — пераправа.
Вы праходзьце, а я — ў галавешкі.

* Радкі Уладзіміра Хадыкі.

## *Паўночная Дзвіна*

На бераг трывалы Паўночнай Дзвіны
Хацелася сцішана трапіць.
Прыбою старога глухія званы
Каб білі у цела ля трапа.

Архангельскіх вуліц прамая рука
Нязводна пакажа на воды.
Гайдае сябе ці спыніла рака?
Прастойнай хвіліны ніводнай.

Дзвіна яшчэ чуе, як лёд храбусцеў
Пад дном ледакола каваным.
І зноў ёй трымаць на двужыльным хрыбце
Качэўнікаў трох акіянаў.

А памяць гарматна у скроню заб'е,
Рака не забыла пра грозныя ношы.
Ёй Поўнач, як баржу, цягнуць на сабе
У вечнасці белыя ночы.

## *Электрасеткі*

Землякі М. Пачабыт і А. Рачок — энергетыкі на Поўначы.

Тайга у дрымотным загары.
Макушка не ў воблаку ледзь.
Пасёлак завуць Шэгавары,
Рака пад ім з назваю Ледзь.

Тут людзі паўночнага крою.
Паўночнага складу дамы.

Не мерыцца слова з ікрою,
Тут слова дужэйшай цаны.

Не спіцца тутэйшаму сонцу:
З гадзіну якую спачын.
І чую —
Зямляцкаму хлопцу
Спяшацца хапае прычын.

...Блукаюць у цемры завеі —
Зімы прысыпаецца друз.
Запальвае зораў лілеі
Са службы святла
Беларус.

## ***Рака пад бярвеннямі***

Звозяць даніну тайгі.
Тая ж —
На лес не скупая.
Няўмольныя берагі
Кедр камлём калупае.

Запань запашвае лес.
Бёрны старчма пасталі.
На іх рыбачок узлез —
Выкапень на п'едэстале.

Хоць бы рацэ ўдыхнуць:
Воблачка на падхваце.
Стыне рака, як ртуць,
У драўляным бушлаце.

## *Памяці маці*

### *1*

Радасць расце ўдвая:
Мама, відаць, згадала?
Старэнькая мама мая,
Мама мая маладая!

Хадзілі дажджы наўскос.
Палалі уверх вяргіні.
І дзён незлічоны стос
У полымі тым не гінуў.

У коціках і сярпе
Паўстануць туман і свята,
Дзе кожны мазоль свярбеў
І шчасце хадзіла ў хату.

Сонца мяняла вось,
Праменне спраўляла веча.
І думалася, што вось
Ужо надыходзіць вечнасць.

...Дамоў вядзе каляя.
За шыбінай выглядае
Старэнькая мама мая,
Мама мая маладая...

### *2*

Завіруха.
Сняговіца —
Мама гэтак казала.
Смутак твой не загоіцца
На палях і вакзалах.

Вецер рвецца праз гурбы
І хапае за рамы.
Шэпчуць крэўнае губы.
Каля прыпечка —
мама.

За платамі завеяцца
Чорных яблынь галіны.

Згадка ў радасць завернецца,
Нібы парастак з гліны.

...Сцежка.
Цень ад калодзежа.
Пенны воблак у садзе.
Пчолы ў пене калоцяцца.
Мама.
Ганак.
Прысядзем.

Дзе дымілася ворыва —
У жытах панарама.
Нешта нам не гаворыцца,
Што ж маўклівая, мама?

Ці гасцінцам прынесена
Нежаданая скруха?
Не вясёла. Не песенна.
Сам тады сябе слухай.

Вербы дояць аселіцу.
Адзначаюцца даты.

Як жа зараз асмеліцца
Без цябе... і дахаты?

Дом не тупае стрэлкамі.
Рэха іх не разгоніцца.
Па-над сэрцам і стрэхамі
Завіруха-сняговіца.

## ***Памяці Рыгора Семашкевіча***

*Уступ*

Падуланы і зорам, і дню,
Незалежны, нібы жалеза.
Вось такім я цябе прысню,
Я цяпер ад цябе залежу.

*1*

Вырывалася шчасце, калі
Трапятала зара на усходзе.
Мы аднойчы на свеце былі,
Мы жылі у дваццатым стагоддзі.

Мы зачытвалі неба шляхі
Там,
Дзе роспісы белаю крэйдай.
Трыснягоў маладыя штыхі
Вартавалі любові дэкрэты.

На краёчку радка і забаў,
На нахіле
гары Гедыміна
Неадольна ў суровых снах
Гронка бэзу густая дыміла.

Уздымалася побач трава.
Ападалі аблокі далёка.
У надзеі вясёлы трамвай
Мы скакалі зайздросна і лёгка.

На пабелены аркуш зімы
З рыпам ставіць пяро адліга.
Гэта значыць, што будзем мы
Захаваны ад зла і ліха.

***2***

Адплывае апалы ліст:
На радзіме ручай — за начоўкі.
Дыму мох задумёна звіс
На апошнім вянцы леснічоўкі.

Светладумца.
Не вертапрах.
Пра такога цябе пачулі.
Мой уздых у тваіх жытах
І цяпер у сярпе начуе.

Маладзечанскі одумны тракт
Паўстае, як паўстала б таполя.
І відна на агорклых вятрах
Залатая салома ў полі.

Як балючым глытком з гладыша,
Хто спагадай цяпер дагодзіць?
Над табою мне шэпча душа:
Вы прайшлі у дваццатым стагоддзі.

## ***Балада цішыні***

Роўнаю хвілінай памаўчым,
Хай яна настрою паспрыяе.
Не шанцуе песні, бо зачын
Толькі легкадумных акрыляе.

На размераным зыходзе дня
У крыніц і гаю у адведках
Зразумееш:
Толькі цішыня
На абодвух светах будзе сведкай.

Сведкай руху, позірку і сну,
Голасу,
Спакою
І імгнення...
Праганяем воблакі і сум,
Толькі ад яе няма збавення.

Ды нашто збаўляцца цішыні?
Цяжкі колас
просіцца да долу,
На яго ціхуткім каранi
Калыхаецца і наша доля.

## ***Шафёрская балада***

Кляні ў запале не кляні —
А ёй бяда малая.
Чатыры ночы дзень пры дні
Завея баль спраўляе.

І ёй разбежна магістраль,
І ёй свабодна ў полі.
І застывае сходу сталь,
Калі мароз на волі.

Хоць ноч і просіць на спакой,
Не спіцца небаракам,
Нібыта зорам над ракой,
Шафёрам і сабакам.

Хоць на матор кажух надзень,
Прыстаць знайдзі закутак,
Бо кола поўні без надзей
У лёд нябёс закута.

## *Балада залатой пчалы*

Каб стаць нерухомай кропляй
У воску, нібы ў смале,
Пчала над вясёлкай картоплі
Турбуецца ўсё смялей.

...Зіма мядок каштавала,
І песня была ля стала,
Як пчолка у свет лятала
З бяла сабе да бяла.

«Ой, гула пчолка, гула,
Па бару лятаючы,
Па бару лятаючы
Ды мядок збіраючы...»

## *Зямное*

У глебы ёсць адзін закон:
Каго — караць,
Каго — аддзячыць.
І бачны вёсцы з-за акон
Усмех бульбоўніку юначы.

У глебы ёсць і запавет:
Каб род людскі працягваў рату,
Павінен ён араць як след
І гадаваць як след аратых.

Калі ступаю на раллю,
Вядомых ісцін пэўны знаўца,
Сябе падслухаць нараўлю,
Ці змог бы з ёю развітацца?

* * *

Дарог дзяржаўны гул.
Агні. Адхоны.
Абветраны да скул
Імчаць вагоны.

Скідаюць жухлы груз
Шчыты і дрэвы.
Пад сподам землятрус,
Як хмельны, дрэмле.

Прыпалі зноў дамы
Да шыб аконных.
На беразе зімы
Свае законы.

Вятроў галодны шал
Ля рэк заходніх.
Ляціць калона шпал,
Бы год за годам.

Цябе узяць гатоў
Любы паўстанак
Загоншчыкам снягоў,
Пастух маланак.

## *Салдат у вагоне*

Над грымучым вакзалам
Неба хмары вязло.
Восень дым завязала
Ненадзейным вузлом.

На жалезным напрамку
Свой настрой і расклад.
І цывільнаму ранку,
Пэўна, рады салдат.

За плячыма вайскоўца
Танкадром.
Палігон.
Так і просіцца слоўца
Правадніцы ўздагон.

І крылата ў настроі
Б’ецца гул маладых:
Так усходзяць на строму
Радасць мець ад хады.

Блішча гузіка колца.
Думкі, што ж не спіце?
І наперадзе ў хлопца —
Як бяссмерце — жыццё.

## *Згадка*

На вольным полі васілёк,
Пад небам выснены айчынай.
Ляціць над жытам матылёк,
Хлапчук стаіць перад вачыма.

## *На даляглядзе*

Ялавіна.
Крушня.
І жаўрук
Развінае песню на блакіце.
Выпадае са старэчых рук
Васілёк засведчаны у жыце.

Кропка дзічкі значыць далягляд.
У дарогі памяць палявая.
І праменны вадаспад наўзгад
Сонцам перапады палівае.

Нібы воблак, хвалісты курган
Праплывае траўным задуменнем.
І пагудкі ходзяць наўкруга —
Іх нішто на свеце не заменіць.

Вобак — вёска.
Агароды.
Гай.
Белы камень
                    моўчкі заіграе.
Дык чаму за горла, як туга,
Наша назаўсёды забірае?

## ***Эцюд прадчування***

Паспяшае жураў
Адарвана узняцца на вецер.
Мусіць,
Слову у вырай пара?
Шум вільготны у вецці.
Ліст закружыць па свеце.

## ***Зімовая дарога***

У адлогах — дольна.
Кут, як свет, шырокі.
Мчацца неадольна
Сэрца і аблокі.

Доўга будзе зыркаць,
Як кавальскі горан,
Снег той стаязыкі
Каля вёскі Горна.

Гладкая дарога
Свішча і смяецца.
Недзе каля бога
Рэха аддаецца.

Ручнікі сумётаў.
Пасак самалёта.

За высокім гудам,
За глыбокім борам
Доўга помніць буду —
Паміраць не скора.

## 2

### Трыялеты

* * *

Як подых высокіх падзей,
Паветра крылом заварушыць.
І душу раптоўна узрушыць,
Як подых высокіх падзей.
І скруха карэнне не скрушыць
Пад небам радзімых надзей,
Як подых высокіх падзей,
Паветра крылом заварушыць.

* * *

Спадчынны край на зары
І жылкаю мне далягае,
І з твару падобны да гаю
Спадчынны край на зары.
Ці будзе дарога даўгая,
Ці стану, як воблак, старым,
Спадчынны край на зары
І жылкаю мне далягае.

* * *

Рабіны лiтое пламенне
У шыбах паўстала, бы знак.
Хапае вачамі юнак
Рабіны лiтое пламенне.

І горача здасца. Аднак
І холаду стала не меней...
Рабіны лiтое пламенне
У шыбах паўстала, бы знак.

* * *

Прысніўся снег на чорным полі,
Нібы вястун у шары час.
Гаючай з вызнаных акрас
Прысніўся снег на чорным полі.
Я ўспомніў здзіўлена пра вас —
І сэрца рынула на волю.
Прысніўся снег на чорным полі,
Нібы вястун у шары час.

* * *

Залекацелі сэрцы у дзяўчат,
Калі пара прадвесня прагучала
І ўсё жывое у палон забрала.
Залекацелі сэрцы у дзяўчат.

І кожнае часіну выбірала
Пакінуць неўзабаве спрат.
Залекацелі сэрцы у дзяўчат,
Калі пара прадвесня прагучала.

* * *

І трава, і дзіва, і дымок
З ранкам абдымаюцца дасхочу.
Да блакіту мерацца даскочыць
І трава, і дзіва, і дымок.
І хлапчук замурзаны рагоча,
І пастух, што высах, бо прамок.
І трава, і дзіва, і дымок
З ранкам абдымаюцца дасхочу.

*З*

## ***Вясеннія матывы***

У празрыстай прасторы дрыжыць
Перагружаных шпалаў драбіна.
Рана ў звера паспела зажыць,
Хоць пад скурай цвярдзее шраціна.

Паімкнуўся да квецені сад,
Чуе вобак дарог перагуды.
Па-над сховам драпежных засад
Лямант крыламі б'е з перапуду.

На хваёвым застрэшку бароў
Набрыняла, як полаг, паветра.
І пагодных няма забарон:
Узлятае сасна, нібы ветразь.

Вырастаюць з адметных мясцін
Маладняк,
Напамінак,
Надзея.
Ты у неба ім шлях замасціў,
Дык зямля і цябе абнядзеліць.

Будзе многа абапал травы,
А на ёй і для радасці месца,
Што, здаецца, шапнуў бы: «А вы
Заспяшаліся, людцы, на Месяц...»

Садзяць бульбу.
Фарбуюць акно.

Кажухі разамлелі на плоце.
А найбольш дык чутно і відно
Жаўруковае шчасце ў палёце.

## ***Ноч***

Нанач фарбы губляюць
І бляск,
І красу.
Ды затое угору ўздымаецца зорка,
Каб агледзець спакой,
Наваколле,
Расу
На засеяных лёсам пагорках.

Кропля касая
вісіць пад лістом.
Падае май
да каленяў чаромхі.
У думках юначых на ганку пастой
Хаўруснікам гукаў чароўных.

Разбойна кладуцца сады на платы.
Натомлена днём
брукаванка ўздыхае.
Пошапт глыбокі.
І сад.
І пры тым
Вечнасць стаіць маладая.

## *Трывожнае*

Дачакаемся гэтай пары:
На дыбы узляціць завіруха,
І заўважыш у белым бары
І ў сабе незаўчасныя зрухі.

На сцяжыну, што сам пратаптаў,
Азірацца няўзнак, можа, рана?
Толькі ўсё ж азірнецца ратай,
Ці па-добраму поле ўзарана.

Найскладаней падумаць, што час
Адыходзіць. А ты не ўзыходзіш.
Ды скажы сабе сам без прыкрае:
«Паблазнерылі, браце,— і годзе!»

А іначай дык пойдуць на злом
І гады па пустому іржышчу.
І ля скроні, дзе жылка вузлом,
Сівізна безгалоса засвішча.

## *Не пішацца...*

І трывожыцца па свеце,
І спакоіцца ў куце.
Думка ходзіць на прыкмеце:
Не застацца б у хвасце.

За пагодаю прасочаць
Флюгер,
Позірк,
Ручаёк...

Сам жа хвояй на падсочцы
Моўчкі думаеш сваё.

За газетнаю завеяй,
За туманамі душы
Хай радок лісцём павее,
Нібы явар у цішы.

І праз тое шалясценне
Зноў пачуеш спакваля,
Як пад высевам вясенні
Угінаецца зямля.

## *Урок чыстапісання*

Крышыцца з бэлек мел,
Нібы мароз на шыбе.
Кожнаму трэба ўмець
Спрыт у пісьме паглыбіць.

Дзякуй, ніхто не ўрок —
Памяць яшчэ не зашыта.
Чыстапісання ўрок
Запісвае маму ў сшытак.

А з-за падвойных рам
Сініцы цікуюць рана,
Рады любым дарам.
Запішам у сшытак раму.

Недзе зеніткі б'юць.
Неба палае Карэі.

Пісьменства высокі пуць.
Глыбока яго карэнні.

Слову ці будзеш гож?
Свішча зімы прапелер.
Добра не ведаць ўсё ж:
Сцерпіць усё папера.

Да школы было хады…
Птушыных слядоў пісанка
Паведаміць, што халады
Клічуць ізноў на санкі.

Ды нешта нясмелы крок
Перад такім спатканнем:
Заменены рыфмаў урок
Урокам чыстапісання.

## ***Альховы лісток***

Вячэрні пагляд калышу…
Адкрыцца для слова гатовы,
Англійскаю ручкай пішу
Пра зэльвенскі лісцік альховы.

Адбітак на дне ручая
Знаходзіць каса і прыгода.
І вольха стаіць нічыя,
Па колцах адлічвае годы.

Расу сцеражэ халадок.
І воблачка дым кучаравы,

Як след самалётных гадоў
Ці лёгкае думкі направа.

Альховы лісток. І смуга.
А думаў: яго прыгадаю,
Упэўненай стане нага,
Калі ўжо шляхі праглядаюць.

...Вячэрні уздых варушу:
Успомніў пра лісцік альховы.
Шапчу і зусім не пішу,
Узняцца да слова гатовы.

## *У садах маленства*

Садоў зялёных грыва
Ляціць на ветры ўвысь.
І плот прагляне крыва,
Раўнюсенькі калісь.

У чэрвеня натура
Спякоты і вады.
І сонечна, і хмурна —
Надзея на плады.

Таму кустоў купчастых
І кроны, і рады
Трывожна і заўчасна
Не ведаюць бяды.

Садоў зялёных грыва
У кроплях і шпаках,
Ляці уверх імкліва,
На ўсіх мацерыках.

І ў невядомым месцы
У шчасці, не ў журбе
Касмічны пыл падмесці
Надарыцца табе.

* * *

Варэжайскага кораня зрэз
Не прышчэпіць ніхто чаранкамі.
Глебе тут накановаць лес:
Ён да неба імкнецца рукамі.

Патаемнае ночы узрок,
Светляком скіраваны у душу,
І адразу ўзнікае зарок
Аніводнага гуку не рушыць.

Непазбежна світанне. Стаяць
Непрытомна ствалы і аблокі.
І да неба рукою падаць,
І вільготны пясок недалёка.

## ***Бярозавы гай***

Над сцежкай слядоў старых
Пад прадзівам рэактыўным
Ветрык макушкі стрыг,
Уносіў свае карэктывы

У шэрае птушкі грай,
У бела-бярозавы пошум,
Каб музыка ні на гран
Не стала свісцёлкай пошлай.

Пракручвае стужку гай
Уласнага магнітафона.
Ніякіх у ёй заган
На буйназялёным фоне.

Гукам не лёс — спяшаць,
Ім сярод шчасця звычна.
Музыка і душа.
Бярозы растуць сіметрычна.

## *З Ролфа Якабсена*

***...Зоркі — заклёпкі неба.***

З кнігі «Стракатасць жыцця»

Нябеснай кузні малаток
Гуляе над кавадлам.
Іграе сілай маладой
Кавальскі дух заядлы.

Стазвонны купал, што будан,
Металам зор прашыты.
І звоніць гэтак жа, бадай,
Як медны колас жыта.

Калі балючая раса
Апальвае аблогу,
Дык势 станyць зоры вырастаць,
Нібы цвікі з падлогі.

Кавальскай справы ані спец,
Хаця й раздзьмухваў горан,
(А той жа гэтак можа спець,
Ажно душу агорне).

Прысніў жа кузню,
як знарок.
Дайшло праз буслаў клёкат:
Трымаюць неба і нарог
Аднолькавы заклёпкі.

## ***Заліў***

У гуле медных смол
За беларускім борам
Упаў радок на стол:
Заліў — пачатак мора.

І з залацістых стром
Прыйшла дэпеша скора,
Адпраўлена вяслом:
Заліў — пачатак мора.

Буяніў грозна норд
І сосны рваў пад корань.
І ведаў кожны борт:
Заліў — пачатак мора.

З нябыту, як са дна,
Плылі абломкі гора.
Іх змрочна падымаў
Заліў — пачатак мора.

У звычкі так здавён:
Адзіны міг — на зборы.
І сам сабе давёў:
Заліў — пачатак мора.

Над хваляю рудой,
Як юны непакора,
Стаіць урост радок:
Заліў — пачатак мора.

І хоць збівае з ног
(Для ветру дробязь — змора),
Радок вяшчуе зноў:
Заліў — пачатак мора.

## *Пейзаж з бялізнай*

На ветры глуха стыне пляж.
Пясок.
Лісцё, як ветах.
І хмары разарваны плашч
Распяты тым жа ветрам.

На дзюну подбегам ідуць
Сасонкі ў доўгіх строях.
З размаху цяжкую ваду
Уніз кідае строма.

Пасёлак.
Сеці на хляве.
І часу ход прыблізны.
І на шнуры,— на цеціве,—
Напятая бялізна.

А шторм узбуджана рыкаў,
Было відно спачатку,
Як зяб халаціка рукаў.
Над ім крычалі чайкі.

* * *

Пад небам не зашкодзіць
Усмешка і туга.
Па родных берагах
І ў будзень свята ходзіць.

І вузенька на сцежцы,
Яе вартуе ціш.
Два сэрцы —
Як спарыш —
Адно другое цешыць.

* * *

Расчэсвала жанчына валасы.
І было расквечана на свеце,
І ляцелі промняў каласы,
І было святое на прыкмеце.

Радаснай валошкі касячок
Высыпаў на ўзмежак ад здзіўлення.
Колер меў такі ж і каснічок
У жанчыны на тугіх каленях.

Расчэсвала жанчына валасы
І сваёй уцехі не хавала.
Нібы бляск ад ранішняй касы,
Грабянька мільганне хвалявала.

Валасоў грымучы вадаспад
Заглушыў і водгукі, і гукі.
Словы узнікалі неўпапад,
Думкі разляталіся, як рукі.

Раніца, лагода, цішыня
Атулялі на краі сусвету
Воблака,
Жанчыну,
Птушаня.
...Несмяротнае было у гэтым.

## *Сенакос*

Пячэ палюбоўна раса.
І вольхі не сталі радамі.
Спяшае каса выкрасаць
Вільготныя іскры грудамі.

У лета балотны расклад.
Забавіцца сонца ў зеніце,
Дык пойдзе палудзень на лад
У сене — зыркім аксаміце.

А цені палягуць наўскос,
То першай тады узлятае
Агледзець і свой сенакос
Пчала, як прамень, залатая.

Мядунак,
Мятліца,
Званкі.
Шасціць лугавіна ў паветры.
Жанчына глядзіць з-пад рукі.
Сукенка шугае на ветры.

## ***Жартоўнае пра яловы лес***

**...У сасновым лесе — маліцца, у бярозавым — любіцца, у дубовым — волю каваць, у яловым — душу д'яблу прадаваць. Гэты лес быў яловы...**

У. Караткевіч

На схіле грайных дзён
Загар, нібы абнова.
Сасновы лес відзён,
Таксама — лес яловы.

Дзе птушка не заспіць
І звера глухне яма,
Дубовы лес стаіць,
Бярозавы таксама.

Нам сцежка зычыць так:
Ідзіце толькі проста.
Не так ступіў зямляк,
І ля ляснога моста
Прыўстала, бы няўзнак,
Дзяўчына, як кароста.

Апухла галава:
Бо думкі, нібы сажа.

Які лес пільнаваць,
Анёл, напэўна, скажа?

І тут жа, як знарок,
Адчайна і ўрачыста
Пайшлі мы крок у крок
Па самым полі чыстым.

Мінулі свет, райцэнтр.
На д’ябальскія ловы
Ідзём рука ў руцэ...
Куды?
У лес яловы!

## *Сцежка ў жыце*

Ходзіць сонца да вечара,
Лічыць дрэвы, як вешкі.
Дакраніся да вечнага:
Жыта ўстане ля сцежкі.

Нібы маятнік воблакаў,
Жаўр пад небам гайдаецца.
Пераззвоны
І воблікі,
Што яшчэ прыгадаецца?..

Як рака па каменьчыках,
Валасы твае сцелюцца.
Над травой некамечанай
Хоча слова асмеліцца.

Куколю, куколю,
Не хадзі па полю,

Не маргай вачыма,
Не твая дзяўчына.

Неўспадзеўкі мяцеліцы
Нашу сцежку пакраталі.
Валасы твае сцелюцца
Перака...?
Пе-ра-ка-та-мі!

## *Задуманая жанчына*

Сабраны запас акрас.
Запас жа бяды не чыніць.
І, можа, пра той запас
Задумалася жанчына.

У смутных усплёсках дзён
Спакой замяняе мару.
І кожны сабе жадзён
Няўзнакі змяніцца з твару.

У поўдні жаночы век.
Пастава.
Загар.
Касынка.
Нябачная з-пад павек
Удалеч плыве Касінка.

Мора замкнула шторм
І стала на варце думак.
А думаецца пра што?
Падумаў — як вецер дунуў.

Жанчыны глыбокі ўздых.
Пяскі, як вада, навокал.
Жыве не апошняй з тых,
Якія заўжды на воку.

Падвечар прыходзяць зноў
Загадкі —
Для сноў прычыны.
Як час, што ідзе на знос,
Задумалася жанчына.

Пра тое, як быць? Ці пець?
Пра тое, што можа стацца?
Пра тое, калі б паспець?
Пацешыцца і застацца?

Вядомых няма крыніц,
Ніхто не адкажа чынам.
Нявызнаная з таямніц —
Задумалася жанчына...

## *Асенні ўспамін*

Не сонечна, не зелена.
Налёты халадоў.
Я вырακам гадоў
Даўно з табой раздзелены.

Спяліла ж думкі згода:
Ні хмарынкі ў вачах.
Каб нанава пачаць,
Ці ёсць наноў нагода?

Дрыжыць лісток асіны:
Пад снегам знойдзе схрон.
І памяці адхон
Няма адолець сілы.

## *Гродзенская імпрэсія*

Калі
сустрэнеце спакойнага чалавека
апоўначы
ў квартале,
дзе ў бліскучы асфальт
углядаюцца вокны
і ў пакінутым скверы
атрасае плашч навальніца —
гэта ходзіць
сон горада.

## *Зэльвенскія лясы*

Зэльвенскія лясы.
Не я адзін вам удзячны
За шэпты і галасы,
Найбольш за пошум зямлячы.

У вольхах блішчыць ручэй.
Сцежка ідзе на ўзлесак.
Тут не ідуць шпарчэй
І воблакі, і пралескі.

Зэльвенскія лясы.
Недзе у вашыхсховах
Мох растраслі ласі,
Гнёзды звіла замова.

Замова ад тапара,
Вогнішча, бураломy.
Гойдаецца на барах
Полаг зялёнага грому.

Хвоя мкне да акон:
Горад ёй даў суглінкі.
Стукаецца ў балкон
Зэльвенская галінка.

Гора найлепш не мець.
Будзь жа шчаслівы самы.
Будзе рэха ляцець
Зэльвенскімі лясамі.

## *Пісьмо дачцэ*

Вецер дыбіцца ў правадах,
Ён у пісьмах — не памагаты.
Валацугам спакон, відаць,
Пратуляўся між дрэў і хатаў.

Што ты робіш
                                        і як жывеш
У вясёлай, бы луг, сукенцы,
Ці сініцам зерня даеш,
Бо намерзліся за акенцам?

Ці то, можа, ў садзе зімы
Снегіруюць твае рукавічкі?
Толькі іх паспрабуй здымі —
У мароза шчыкацца звычка.

Дома зімка снягі грабе,
Ёй з табою не ведаць зморы.
Лапай рыжай махае табе,
Як сабака,— кудлатае мора.

## ***Надпіс на першай кнізе***

Расы друкарскай халадок.
Зямля.
Узмах.
Вышыні...
Жарэбчыкам радок
Танцуе ў канюшыне.

## ***Лістапад***

Дзверы восені адчыні
І прыгледзься, як на будынак
Наплываюць лісця чаўны,
Бы плывуць галасы у дыме.

Засыпае лісцём душу
Каляровага саду завея.

Аб адным я цябе прашу:
Апусці на хвіліну веі.

Мы паслухаем лістапад
І травы элегічнай рухі.
Нам дарогі няма назад,
Дзе язмінам апаліць рукі.

Колькі часу жывём і дзе
Ходзяць нашыя адгалоскі —
Як кругі па пустой вадзе?
Ці узгор'і абапал вёскі?

На радно нямых каляін
Неба роніць дажджу асколак.
Я сачу, як знікае клін
Жураўліны
Тваіх прыколак.

Уздымае нас напрасткі
За замглёныя далягляды.
І ляцім мы, як два лісткі,
Між сусветнага лістападу.

### *Узмор'е*

Сосны
Мора глыбокі гул
Узнялі па пяску на бераг.
І трымае яго аберуч
Сосен выпрабаваны агул.

## *Ветэраны*

Смерць хапала воіна за плечы,
Зацiскала горла: жыць — не жыць,
Раны, можа, неяк і залечыш,
Думкі — як жывое на нажы.

Пакаленне рызыкі і спору,
Гарту, спасціжэння, перамог.
Не скарыў вас ачмурэлы порах
І наводка, што завуць прамой.

Памяці высокія адхоны.
У рубцах усходзяць рубяжы.
Ды ляцяць усё ж гадоў вагоны
Непадуладна з'юшанай іржы.

Над адчайным і праcторным лёсам
Гордасць уздымаецца, як сцяг.
І стукочуць справы і калёсы
Да свайго здзяйснення напрасцяк.

У душу вам скруха не залезла.
І сумленне ёй не пратачыць.
А машын задыханых жалеза
Просіцца у вас, каб адпачыць.

## *Падручнік гісторыі*

У падручнік гісторыі
Раптам трапіла зёлка.
А на той тэрыторыі
І тужліва, і золка.

Там і пыха, і водбліскі,
І даносы, і шэпты,
Непрыступныя з вобліку
Самаўладства адэпты.

Перацёртыя жорнамі
І краіны, і лёсы.
Крэматорыі чорныя,
У пажарах нябёсы.

Стаць сухой у калекцыі
Зёлцы выпала доля.
Як не стануць калекамі
Адарваныя з долу?

І пад жудасным цяжарам
Утрываць немагчыма.
Існую нібы спражана,—
Зёлка кажа вачыма.

Ходзіць зёлчына брація
На узмежку пад ручкі.
Зёлцы час перабрацца
Ды ў любові падручнік.

Хоць умовы і створаны,
Па кілімах ці трапах
У падручнік гісторыі
Не спяшайцеся трапіць.

## *Радаснае*

Фарбам у прасторы не баліць.
Бязважкасць наступіла, як прыгода.
І доўжыцца сярэбраная ніць
Між берагам
і сэрцам цеплахода.

І настрой спяшаецца на ўздым:
Дзякаваць вандроўніцкай нагодзе.
Растае мінулае, як дым,
І дымок таго, што будзе —
На ўзыходзе.

І ляціць блішчаста па канве
І сцяжок,
І хмарка,
І выснова.
І настрой, як радасны канверт,
Вылятае зноў услед за словам.

## *Нёманскі малюнак*

З хвіліны на хвіліну
Адстане нарасхрыст,
Як воблак ад хваіны,
Скразное хвалі свіст.

За смелым паваротам
Направа будзе май,
І горны стануць потым
Трубіць у ранні гай.

Дзе выдмы свежай рана
Аслепіць, як рывок,
Стаіць сабе з-за рана
Чырвоны паплавок.

І з гонарам хлапечым
(Да сонца шанец быў)
Малец рукзак — за плечы,
І ходу пад абрыў.

*Змест*

*1*

## *2*

Т р ы я л е т ы



## *3*

Голуб Ю.
Помню пра цябе: Вершы.— Мн.:
Маст. літ., 1983.— 62 с., іл.
**25** к.

У чацвёртай па ліку кнізе вершаў паэт застаецца верным сваім вытокам — непаўторнай Бацькаўшчыне, глыбінным карэнням чалавечай душы, усяму, што створана людскім розумам і рукамі.

*ЮРИЙ ВЛАДИМИРОВИЧ ГОЛУБ*

***Помню о тебе***

Стихи

О

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк. Мастак У. М. Вішнеўскі. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 1814

Здадзена ў набор 04.01.83. Падп. да друку 23.03.83. АТ 21056. Фармат 70X90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,34. Ум. фарб.-адб. 3,80. Ул.-выд. арк. 2,17. Тыраж 4000 экз. Зак. 3270. Цана 25 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.